СОНЦА:

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.19, 16.28, 9.09;
Віцебск — 7.13, 16.13, 9.00;
Магілёў — 7.08, 16.17, 9.09;
Гомель — 7.03, 16.17, 9.14;
Гродна — 7.35, 16.42, 9.07;
Брэст — 7.29, 16.49, 9.20.

МЕСЯЦ:

Першая квадра 2 лістапада.

ІМЯНІНЫ

Феафіла, Апанаса.

# ЗВЯЗДА

6 ЛІСТАПАДА 1992 г.
пятніца, № 225 (22003)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### 355 ПРАЦЭНТАЎ — ГЭТА ВАМ НЕ ЖАРТАЧКІ

Менавіта на столькі пабольшала колькасць падпісчыкаў «Звязды» ў Гомельскай вобласці па стану на 1 лістапада ў параўнанні з 1 студзеня 1992 года, і наша чытацкая аўдыторыя на Гомельшчыне ў наступным годзе будзе налічваць 31.044 чалавекі. У некаторых іншых газет паказчыкі (таксама ў працэнтных адносінах) больш сціплыя: «Народная газета» — 83.572 экземпляры (212%), «Советская Белоруссия» — 75.974 экземпляры (168%) і «Белорусская нива» — 14.440 экземпляраў (100,1%).

Канешне, прыемна, што на Гомельшчыне ў нас будзе ў тры з палавінай разы больш сяброў і аднадумцаў. Мы ж са свайго боку пастараемся апраўдаць іх давер.

### «ПАСТАНОВА ЎЗАКОНЬВАЕ ЗВЫШУРОЧНУЮ РАБОТУ...»

Учора на ранішнім пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета разглядалася пытанне аб невыкананні ўрадам рэспублікі Закона аб адукацыі ў поўным аб'ёме. Дэпутаты абмяркоўвалі два праекты пастановы па артыкулу 34 — Саўміна і дэпутацкай камісіі ВС. У выніку пайменнага галасавання была прынята пастанова, падрыхтаваная Саветам Міністраў рэспублікі. Згодна з ёй, сярэдняя заработная плата педагагічных работнікаў павінна быць не меншай за сярэднюю заработную плату служачых у прамысловасці (а зарплата прафесарска-выкладчыцкага саставу — у 1,5 раза большай). Вырашана таксама пачынаючы з IV квартала 1992 года праводзіць пакватральную карэкціроўку разрадаў і тарыфных каэфіцыентаў педработнікаў з улікам сярэднемесячнага заработку служачых прамысловасці.

Прынятая сесіяй ВС пастанова адразу ж была размножана і перададзена настаўнікам, якія, нягледзячы на непагадзь, зноў прыйшлі на плошчу Незалежнасці. Якой была рэакцыя?

— Прынятае дэпутатамі рашэнне нас задаволіць не можа: чаму ў пастанове размова ідзе не пра стаўку зарплаты, а пра заработную плату? Чаму мы павінны працаваць на паўтары стаўкі — літаральна на знос,— і якой пры гэтым будзе якасць нашых урокаў, якія веды атрымае вучань?

— Гэтай пастановай дэпутаты фактычна ўзаконьваюць звышурочную нагрузку настаўніка. І гэта называецца выкананнем Закона аб адукацыі?! Мы пакідаем за сабой права на забастоўку.

Настаўнікі, як відаць, не задаволены рашэннем сесіі ВС. Застаецца спадзявацца, што ўсе праблемы яны будуць вырашаць цывілізаваным шляхам.

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

### ЎСЕ МЕНШ, І МЕНШ, І МЕНШ

**МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. З пачатку года аб'ём прамысловай прадукцыі на прадпрыемствах Міншчыны зменшыўся больш чым на 2,2 мільярда рублёў, у тым ліку амаль на 2 мільярда — прадукцыі машынабудавання, 56 мільёнаў — лёгкай, 13,8 мільёна — лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці. Акрамя таго, у сувязі са спыненнем вытворчасцей і пераходам на іншы рэжым работы з пачатку года звольнена 900 чалавек прамыслова-вытворчага персаналу.**

### ЯШЧЭ АДНО НАРАДЖЭННЕ...

«Вялікага хакея чакаць засталося нядоўга», — пісала летам «Звязда». Сёння мы паведамляем: вялікі хакей прыйшоў на Беларусь. Кваліфікацыйны турнір трох зборных — Беларусі, Украіны і Казахстана — вызначыць дзве каманды, якія ў наступным годзе прымуць удзел у чэмпіянаце свету сярод каманд групы «С».

На жаль, сёння мы пакуль не можам апублікаваць састаў нацыянальнай зборнай нашай краіны, бо ў чацвер раніцай галоўны трэнер У. Сафонаў яшчэ не вызначыў яго. Аднак відавочна, што аснову каманды складуць хакеісты мінскага «Дынама», будуць задзейнічаны таксама іграці гродзенскага «Нёмана» і наваполацкага «Хіміка». Апошняя надзея на легіянераў пайшла марна: Грыбко, Старасценка, Баршчэўскі, Фёдараў — выхаванцы беларускага хакея — уключаны ў саставы першай або другой расійскай зборнай. Праўда, спадзяюцца на прыезд у Мінск Андрэя Дзмітрыева і Сяргея Хаткевіча — былых ігракоў «Дынама», якія зараз выступаюць у адным з германскіх клубаў.

Шанцы трох зборных аднолькавыя: яўных фаварытаў або аўтсайдэраў няма.

Вось якая раскладка матчаў. **Пятніца, 6 лістапада.** У 18.30 на лёдавую пляцоўку Палаца спорту выйдуць зборныя **Казахстана і Украіны. У суботу** сустрэнуцца **Беларусь і Украіна, а 8 лістапада — Беларусь і Казахстан.** Два апошнія матчы пачнуцца ў 17 гадзін.

Паведамляем таксама, што на турнір прыбыў генеральны сакратар Міжнароднай федэрацыі хакея.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## УРАДАВАЯ

**Камісія Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па каардынацыі работы і аператыўнаму вырашэнню пытанняў паралельнага абарачэння рублёў і разліковых білетаў Нацыянальнага банка прыняла рашэнне і даводзіць да ведама.**

**Першае:** У сувязі з выхадам краін Балтыі, Украіны з рублёвай зоны, з мэтай абароны спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь увесці пачынаючы з 10 лістапада 1992 года парадак разлікаў за ўсе харчовыя тавары, уключаючы тытунёвыя і віна-гарэлачныя вырабы на прадпрыемствах рознічнага гандлю ўсіх форм уласнасці толькі за разліковыя білеты Нацыянальнага банка. У грамадскім харчаванні захоўваецца існуючы парадак разлікаў.

**Другое:** Па прычыне адсутнасці купюры разліковага білета менш 50 капеек, роўных 5 рублям, для зручнасці ў ажыццяўленні разлікаў выкарыстоўваюцца рублёвыя банкноты вартасцю ў 1 і 3 рублі, якія ў якасці самастойнага плацежнага сродку пры разліках за харчовыя тавары не прымаюцца.

**Трэцяе:** Камерцыйныя банкі забяспечваюць выдачу сродкаў на заработную плату, аплату працы ў калгасах, пенсіі, дапамогі, стыпендыі, іншыя плацяжы насельніцтву разліковымі білетамі ў памерах, заяўленых кліентамі, але не больш за 80 працэнтаў ад агульнай сумы зарплаты (даходу), пенсіянерам (па іх жаданню) пенсія можа выдавацца разліковымі білетамі ў памеры 100 працэнтаў.

**Чацвёртае:** Абмен рублёў на разліковыя білеты жыхарам Беларусі робіцца па месцы атрымання зарплаты (даходу), а таксама ў ашчадных банках у суме не больш за 5 тысяч рублёў у месяц без спагнання камісійнага збору.

Абмен рублёў на разліковыя білеты для жыхароў іншых дзяржаў, прыбыўшых у Беларусь у камандзіроўку, робіцца прадпрыемствамі, куды яны камандзіраваны, у памеры не больш за 250 рублёў (25 разліковых білетаў) у дзень без спагнання камісійнага збору.

Грамадзянам, якія прыбылі ў Беларусь па іншых прычынах, абмен рублёў на разліковыя білеты робіцца банкамі ў памеры да 2 тысяч рублёў (200 разліковых білетаў) аднначасова са спагнаннем камісійнага збору ў памеры 30 працэнтаў.

**Пятае:** Аблвыканкомам, Мінскаму гарвыканкому, Міністэрству гандлю, Белкаапсаюзу забяспечыць належны кантроль за работай гандлюючых арганізацый ва ўмовах увядзення разлікаў за харчовыя тавары разліковымі білетамі Нацыянальнага банка, прыцягваючы да адказнасці службовых асоб, якія дапускаюць парушэнні ўстаноўленага парадку разлікаў.

**Старшыня Урадавай камісіі С. А. БАГДАНКЕВІЧ.**

### НАШ КАМЕНТАРЫЙ:

Што ж, гэта паведамленне, безумоўна, сенсацыя, але з разраду тых, пра якія гавораць — «чакаемая». Апошнія заявы старшыні Нацыянальнага банка Беларусі Станіслава Багданкевіча ды і проста логіка разумнага сэнсу, здаецца, ужо ўсіх пераканалі, што рана ці позна «зайчыкі» заваююць гандлёвыя прасторы Беларусі. Зараз галоўная праблема толькі ў тым, каб разабрацца, што з гэтага вынікае.

Асноўным пытаннем, што хвалюе не толькі рэспектабельных бізнесменаў, але і простых грамадзян,— ад якой «валюты» (расійскай ці беларускай) хутчэй збаўляцца, бо ёсць сумненні ва ўстойлівасці беларускага разліковага білета. Якая будучыня напаткае «зайчыка?»

Горкая перспектыва ўкраінскага купона ці шчаслівы лёс латышскага рубліса, які стабілізаваўся на ўзроўні 180 рублёў за долар? Начальнік упраўлення арганізацыі грашовага абарачэння Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Каржанеўская лічыць, што наш рубель будзе расці адносна расійскага дзякуючы большай насычанасці і таннасці беларускага рынку. Як ускоснае пацвярджэнне яе словам можна прывесці і той факт, што ў Віцебску замежныя студэнты пасля ўвядзення 4 лістапада «зайчыкаў» пачалі прасіць за долар 400 беларускіх рублёў, хоць да ўвядзення не хацелі прадаваць і за 430. Але што зробіш — есці ж хочацца!

***

І яшчэ адна фінансавая інфармацыя. Учора ў Мінску адбылася сустрэча банкаўскіх экспертаў краін СНД, на якой ішла размова аб неабходнасці заснавання Міждзяржаўнага банка. На сустрэчы таксама прысутнічалі прадстаўнікі МВФ і групы Еўрапейскага супольніцтва. Эксперты прыйшлі да згоды адносна неабходнасці стварэння такога Міждзяржаўнага банка. Яны выпрацавалі рэкамендацыі, якія будуць прадстаўлены кіраўнікам краін СНД на іх наступнай сустрэчы. Паводле слоў начальніка ўпраўлення арганізацыі банкаўскага ўліку і разлікаў Георгія Клімовіча, стварэнне Банка зусім не азначае абавязковае захоўванне рублёвай зоны — у яго могуць уваходзіць і краіны з уласнымі валютамі.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб прапанове групы грамадзян Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У сувязі з парушэннямі ініцыятыўнай групай па правядзенню рэферэндуму артыкулаў 11 і 13 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» адхіліць на падставе артыкула 14 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» прапанову групы грамадзян Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму з фармулёўкай пытання «Ці лічыце Вы неабходным правядзенне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе Закона «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», праект якога ўнесены апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

29 кастрычніка 1992 г.
г. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб Заяве Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб неабходнасці паскарэння канстытуцыйных пераўтварэнняў у Рэспубліцы Беларусь»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Прыняць Заяву «Аб неабходнасці паскарэння канстытуцыйных пераўтварэнняў у Рэспубліцы Беларусь» і апублікаваць яе ў рэспубліканскім друку (тэкст прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

29 кастрычніка 1992 г.
г. Мінск.

## Заява Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ НЕАБХОДНАСЦІ ПАСКАРЭННЯ КАНСТЫТУЦЫЙНЫХ ПЕРАЎТВАРЭННЯЎ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь разгледжана прапанова групы грамадзян Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму з фармулёўкай пытання «Ці лічыце Вы неабходным правядзенне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе Закона «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», праект якога ўнесены апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?».

Паважаючы права грамадзян Рэспублікі Беларусь на прынятце рашэнняў па найбольш важных пытаннях дзяржаўнага і грамадскага жыцця спосабам правядзення народнага галасавання (рэферэндуму), Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь лічыць неабходным заявіць, што рэалізацыя ініцыятывы грамадзян на правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму павінна ажыццяўляцца ў дакладнай адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь выступае за правядзенне радыкальных пераўтварэнняў ва ўсіх галінах палітычнага і сацыяльна - эканамічнага жыцця рэспублікі. Грунтуючыся на канстытуцыйных палажэннях Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пацвярджае сваю прыхільнасць да

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## МАЛЕНЬКІ БАРАК У ЦЭНТРЫ ВЯЛІКАЙ ПАЛІТЫКІ

Нядаўняе і не вельмі чаканае падарожжа Старшыні Вярхоўнага Савета ў Барысаў мела шырокі рэзананс у друку. «Звязда» таксама падрабязна апісала візіт С. С. Шушкевіча. Праўда, штосьці аказалася па-за кадрам. Можна сказаць, дробязі, бытавыя пытанні. Праўда, пры бліжэйшым разглядзе гэтыя дробязі набываюць як бы палітычную афарбоўку...

Я не ставіў на мэце дакладнае адлюстраванне маршруту С. С. Шушкевіча. Проста пабываў па адным з адрасоў і вырашыў праверыць, так сказаць, дзейснасць візіту.

Шукаць доўга не прыйшлося. Дастаткова было трапіць у раён гарадской паліклінікі і спытаць: «А дзе тут той барак?» — і людзі ўсё адразу разумелі і тлумачылі. Пад канец перапыталі: «А вы што, з газеты?» Здагадлівы ў нас народ, што ні кажы. У адным, праўда, месцы двое мужчын не абмежаваліся расказам, як знайсці барак.

— Дык ці ён адзін такі? Вунь усё навокал валіцца. Ты вось паспрабуй да нашага туалета дабрацца. Ды пасядзець там. Ці во па той лесвіцы на другі паверх зайсці. І мы пісалі, да нас, праўда, Шушкевіч не даехаў. Яно і зразумела, не можа ён даехаць ці дайсці да кожнага барака.

Да туалета я не стаў дабірацца, не было патрэбы. А на лесвіцу палез. Такая, ведаеце, знешняя, з двара адразу на другі паверх. Ужо на трэцяй прыступцы я задумаўся, на пятай — рашуча павярнуў назад. Ну яго да д'ябла, жыццё даражэй.

А навокал — сапраўды хоць фільмы аб пасляваенным цяжкім часе здымай — архітэктура якраз тая. Дзікаватая, прама скажам.

Але рушым да барака па вуліцы Герцэна. Верагодна, ужо і слядоў яго не засталося? А жыльцоў з вялікай урачыстасцю перасялілі ў новыя кватэры? Як бы не так. У вокнах святло, цягне дымком і зусім жылым духам. Людзі ходзяць.

Прызнаюся, у жыцці мне давялося пабачыць шмат жытла, у тым ліку «бомжаўскага» і ўсялякага іншага. Такога — не. Наогул, многія бачылі фота, глядзелі незабыўныя кадры па тэлебачанні.

Агульнымі намаганнямі знаходзім Ірыну Ларыну, яна тады была дома. Яна ды яе маці. Большасць астатніх — на рабоце.

— Якія вынікі? А ніякіх.

— Ну, можа хоць хто да вас прыйшоў, можа куды запрасілі?

— Не. Ніхто ў нас з таго часу не быў. Як толькі паехаў Станіслаў Станіслававіч, дык прыехалі з нейкай газеты, распытвалі, здымалі. Дзяцей, сказалі, распранаць не трэба, няхай так і будуць. А пад вечар і тэлебачанне прыехала. І яны нас здымалі, і калідор гэты страшны.

А калідор, сведчу, проста «выдатны». Летась тут быў пажар. Ад чаго — невядома дагэтуль. Толькі выгляд сцен і некаторых дзвярэй — як пасля налёту «групы захопу».

— Не, Іра, прыходзілі ж! З домакіраўніцтва былі, вось акно забілі фанерай.

Гэта — маці Ірыны Ларынай. Яна таксама на некаторы час стала «тэлезоркай». І засталася ў сваёй канурцы, дзесьці 3×4 метры, з грубкай, зробленай некалі сваімі рукамі. І адрамантаванай «спецыялістамі» роўна на два тыдні (зноў пачала разлазіцца па швах).

«Ударніца» і «стаханаўка», яна ў свой час спрабавала стаць на сваім заводзе на кватэрны ўлік. Не, сказалі, ваш жа дом пад знос ідзе, хутчэй так атрымаеш. Некалькі дзесяткаў гадоў усё атрымлівае і атрымлівае.

А наведвальнікі ўсё ж былі. Невысокія, праўда. Барак стаў славутым, і народ ходзіць сюды, як у музей. Мясцовым жыхарам гэта ўжо парадкам надакучыла. Але нічога: паказвалі і расказвалі. Паказвалі дзірку ў падлозе, у якую праваліўся Станіслаў Станіслававіч. Ну, а астатнія маляўнічыя падрабязнасці і так відаць.

На жаль, самага галоўнага наведвальніка на дзень майго прыезду так і не дачакаліся. Спадар Трусаў, намеснік старшыні гарвыканкома, часу на гэта не знайшоў. Што ўяўляецца некалькі дзіўным: вось жа ён, гараж трусаўскі, добры такі, белы, салідны. Паглядзіш — і душа радуецца, ну вось жа могуць у нас рабіць! Могуць, калі захочуць. А калі не, то хоць кол на галаве чашы. Так вось і спадар Трусаў не захацеў. Сказаў, будзеце пісаць — згніяце тут. Людзі і гніюць.

У людзей бываюць слабасці, што зробіш. Адзін надта фанабэрысты, другі любіць паспаць. Слабасці трэба разумець. Але да пэўнай мяжы. Скажам, калі звычайны намеснік старшыні райвыканкома нават пасля візіту Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі, першай асобы дзяржавы, так і не пабываў у гэтым няшчасным бараку, то як гэта назваць? Непавагай? Ці нечым большым — пазіцыяй, напрыклад?

Верагодна, ужо ёсць рашэнне, што размеркаваны кватэры і жыхары барака хутка туды пераедуць. Калі так, то чаму ім пра гэта ніхто не паведаміў? Калі няма рашэння, зноў жа, чаму не сказаць? Вось тут ужо сапраўды пазіцыя. Вельмі нават пэўная: тут гаспадар я. У Вярхоўным Савеце — вы, Станіслаў Станіслававіч, а тут — я, Трусаў. Уласна, і вельмі добра, калі так. Кожны павінен быць гаспадаром на сваім месцы. Нядрэнна было б пры гэтым, праўда, і выконваць свае абавязкі. Кожны свае.

Цікавы штрышок унёс у мае ўражанні адзін барысаўчанін, што падвозіў на сваёй машыне. «Ды што ты — барак, барак, — сказаў, — мне трэба было — я пабудаваў кааператыў. А яны сядзяць у дзярме і пісьмы пішуць. Ну то пішы, дачакаешся ты ад іх...» Яно так, зразумела, але ж хто вінаваты, што людзі такія? На каго даўжок запісаць? «Иных уж нет, а те далече» — і не спытаеш. Наша дабро — нам і разбірацца.

Словам, як ні разважай, а гэты небарака-барак (прабачце за каламбур) апынуўся ў цэнтры вялікай палітыкі. І яшчэ раз ясна стала, што дэмакратычныя імкненні Старшыні Вярхоўнага Савета рэзка разыходзяцца з наменклатурнай практыкай, што... Увогуле, не хочацца займацца чорнымі прагнозамі, але такое ўражанне, што крызіс улады, які мы назіраем, можа скончыцца нечым дрэнным. Магчыма, усеагульнай справядлівасцю. Калі табе — 10 гадоў без права перапіскі і мне таксама.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**



## ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

### ВАША ЗДАРОЎЕ

### Зялёная гарбата

Зялёная гарбата — моцнадзейны ўзбуджальны сродак. Яго стымулюючыя ўласцівасці абумоўлены галоўным чынам кафеінам. Колер і аскомісты смак настою надаюць таніны, духмянасць — эфірныя алеі. Танін папулярнай у Сярэдняй Азіі зялёнай гарбаты складаецца з рэчываў, якія валодаюць процісклерозным дзеяннем. Яны спрыяльныя для слізістай страўнікавага тракта, добра дзейнічаюць на кішэчную мікрафлору, зніжаючы інтэнсіўнасць гніласных працэсаў. Апрача таго, зялёная гарбата валодае антымікробным дзеяннем і таму эфектыўная, напрыклад, пры лячэнні дызентэрыі.

Для гэтых мэт трэба ўмець правільна прыгатаваць адвар. Вазьміце сто грамаў сухой зялёнай гарбаты, заліце двума літрамі вады і настойвайце на працягу паўгадзіны. Пасля на працягу гадзіны, час ад часу памешваючы, кіпяціце і затым адфільтруйце вадкасць праз двайны слой марлі. Заварку, што засталася, зноў заліце літрам вады, пракіпяціце на працягу сарака хвілін і таксама адфільтруйце. Цяпер змяшайце атрыманую вадкасць, разліце ў бутэлькі і пастэрызуйце.

Прымаць адвар трэба па дзве сталовыя лыжкі чатыры разы на дзень за паўгадзіны да яды на працягу дзесяці дзён. Адвар зялёнай

673

гарбаты рэкамендуюць яшчэ і тым, хто пакутуе калітамі і энтэракалітамі. Зялёную гарбату нельга ўжываць пры бяссонніцы, гіпертанічным захворванні, а таксама захворваннях сардэчна-сасудзістай сістэмы.

### Агароднiна-лякарства

Буракі чым цямнейшыя, тым больш карысныя. Колер іх залежыць ад утрымання анатацыяну, які трапляе ў страву, а ў нас змяншае колькасць халестэрыну. Акрамя таго, самыя звычайныя сталовыя буракі ўтрымліваюць да 10 працэнтаў лёгказасваяльных цукроў, поўны набор вітамінаў, арганічныя кіслоты, мінерльныя солі калію, фосфару, кальцыю, магнію, жалеза і ёду. Што імі толькі не лячылі нашы продкі — малакроўе, нервы, сон, гіпертанію, цынгу, бранхіт, запоры, туберкулёз, насмарк, бародаўкі, апёкі, раны і язвы. У буракоў ёсць і тая вялікая перавага, што пры правільным захоўванні яны амаль не губляюць сваіх якасцей да новага ўраджаю.

На жаль, гаючы бурачны сок на смак, прама скажам, так сабе. Нават дабаўленне мёду не вельмі дапамагае. Піць яго даводзіцца як лякарства.

Вялікай колькасцю бурачнага соку можна і атруціцца (добра, калі проста «пранясе»). На ўсякі выпадак, калі вы ніколі не лячыліся сокамі, пачынайце з трэці шклянкі на адзін прыём. Наступны вузкі момант сокалячэння — утрыманне ў агароднiне нітратаў і нітрытаў, ад якіх не страхуе нават пакупка на рынку.

Ад насмарку сок буракоў закапваюць у нос, ад перхаці — уціраюць у скуру галавы, а пры скурных захворваннях прыкладваюць кашку (буракі труць на дробнай тарцы). Ад малакроўя п'юць сок, змяшаны з мёдам ці трайную сумесь (буракі-морква-рэдзька) па 1—2 ст. лыжкі за 10—15 хвілін да яды на працягу 1—2 месяцаў. Для лячэння і прафілактыкі гіпертаніі п'юць 1/4—1/3 шклянкі соку 4 разы на дзень пасля яды. Хто вытрымлівае, можна і больш, да шклянкі. Паляпшэнне пачынаецца дзён праз пяць. Для заспакаення нерваў і добрага сну дозы крыху меншыя.

Гіпертонікам і тым, хто схільны да запораў, вельмі карысна з'ядаць кожны дзень па 100 г вараных буракоў для прафілактыкі. Каб страты вітамінаў пры варцы былі мінімальныя, буракі ў маленькай каструльцы заліце кіпенем і варыце пад крыху прыадкрытай накрыўкай на сярэднім агні, без яўнага кіпення. Чым менш часу яны будуць варыцца, тым больш застанецца вітамінаў. Як для ля-

674

чэння, так і для яды буракі лепш выбіраць сярэдняга памеру ці крыху меншыя.

Яшчэ больш просты спосаб лячыцца — часцей гатаваць што-небудзь з буракоў. Для жадаючых пахудзець буракі на нейкі час павінны стаць амаль асноўнай агароднінай. Каб менш хацелася есці, жуйце больш павольна і ўдумліва, чым карова. А думайце пра штонебудзь прыемнае.

Ледзь не забыліся: вада з-пад буракоў таксама можа спатрэбіцца. Калі пры запорах вараных буракоў аказалася недастаткова, пастаўце клізму з іх адвару.

### Фізкультурная паўза

Чытачы, якія большую частку рабочага часу праводзяць за пішучай машынкай, просяць парэкамендаваць ім комплекс практыкаванняў, якія дапамагаюць зняць стомленасць.

Большасць мышцаў у чалавека такой працы маюць пастаянную статычную нагрузку. Стамляюцца паясніца, спіна, плечы, шыя, парушаецца кровазварот, зніжаецца працаздольнась.

Каб зняць стомленасць, неабходныя дзве-тры фізкультурныя паўзы. Кожнае практыкаванне трэба выконваць 8—10 разоў, правільна, дакладна, з найбольшай амплітудай рухаў.

1. Седзячы на крэсле. Пастаўце ногі на шырыню плячэй, расслабленыя рукі пакладзіце на калені. Падыміце прамыя рукі праз бакі ўверх, прагніцеся, паглядзіце ўверх, зрабіце глыбокі ўдых. Апусціце рукі на калені — выдых.

2. Седзячы на крэсле, рукі на каленях. Павольныя кругавыя рухі галавой налева, затым направа. Нахіляючы галаву назад, рабіце ўдых, нахіляючы ўперад — выдых.

3. Седзячы на крэсле, рукі на каленях. Падыміце прамыя рукі ў бакі і зрабіце імі тры-чатыры пружыністыя рухі назад так, каб злучаліся лапаткі, — удых. Апусціце рукі на калені — выдых.

4. Сагніце рукі ў локцях пад прамым вуглом, пальцы развядзіце. Паслядоўна, пачынаючы з мезенца, веерападобным рухам сагніце пальцы ў кулак. Затым, пачынаючы з вялікага пальца, разагніце. Пасля гэтага зрабіце практыкаванне, згінаючы першым вялікі палец. Закончыўшы практыкаванне, падыміце рукі ўверх, патрасіце расслабленымі кісцямі і зрабіце масаж, пагладжваючы руку ад кончыкаў пальцаў, па прадплеччы да локцевага сустава.

5. Стоячы, ногі на шырыні плячэй. Падымайце і апускайце плечы. Падымаючы плечы, рабіце ўдых, апускаючы—выдых. Затым зрабіце кругавыя рухі плячамі наперад і назад.

675

6. Пастаўце ногі на шырыню плячэй, рукі падыміце ўверх або за галаву. Рабіце кругавыя рухі тулава ў левы, затым у правы бакі. У момант прагінання — удых, у час нахілу наперад — выдых.

7. Ногі на шырыні плячэй, рукі на поясе. Рабіце кругавыя рухі тазам у левы, затым у правы бок. Дыханне раўнамернае.

8. Ногі шырэй плячэй, рукі на поясе. Нахіліцеся наперад, пальцамі левай рукі дакраніцеся да наска правай нагі — выдых. Вярніцеся ў зыходнае становішча — удых. Затым, нахіляючыся наперад, дакраніцеся пальцамі правай рукі да наска левай нагі. Ногі не згінайце.

9. Станьце спінай да стала на адлегласці паўкрока, ногі на шырыні плячэй, рукі — на стале. Цвёрда стоячы на месцы, павярніце тулава налева так, каб вы аказаліся тварам да стала, і пакладзіце рукі на яго край — выдых. Вярніцеся ў зыходнае становішча — удых. Зрабіце практыкаванне, павярнуўшы тулава ўправа.

10. Станьце на дыбачкі, падыміце рукі праз бакі ўверх і зрабіце глыбокі ўдых. Прысядзьце на пальчыкі, апусціце рукі праз бакі ўніз і падыміце наперад — выдых.

Закончыць практыкаванні можна хадзьбой на месцы.

**(Па матэрыялах часопіса «Наука и жизнь».)**

676

